Цана асобнага нумару 20 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem

№. 11. Вільня, Серада, 31 Сакавіка 1926 г. Год II.

# Сялянская Ніва

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Полацкая вул. 4. — (Wilno, ulica Połocka 4).

Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.

Газэта выходзіць раз у тыдзень.

Падпіска на адзін месяц 1 зл., на 3 мес.—2 зл., на 6 мес.—4 зл., на год—8 зл.

Перамена адрэсу 30 гр.

Цана абвестак:

на 1 старонцы 30 грошаў, на 2 і 3 — 25 грошаў і на 4 — 20 грошаў за радок дробнага друку ў ваднэй палосцы. Жадаючыя іншых абвестак, павінны зьвярнуцца да Адміністрацыі.

Орган Беларускага Сялянскага Саюзу.

## Не гатовыя карты...

Кожная сэсія Лігі Народаў выклікае зацікаўленьне ня толькі ў кіраўнічых кругох вялікіх і малых дзяржаў, але і ў шырэйшых кругох грамадзянства. Гэтае зацікаўленьне было асабліва вялікае перад сялетняй вясновай сэсіяй Лігі.

Рэч саўсім зразумелая. На гэтай сэсіі мелася адбыцца перагрупоўка эўропэйскіх і нават заэўропэйскіх палітычных сіл. Дагэтуль уклад сіл быў даволі просты: бо ўсе справы пастанаўляла Антанта, складаючаяся з вялікіх дзяржаў: Англіі, Францыі, Італіі і Японіі. Гэтыя дзяржавы дыктавалі сваю волю ўсім меншым дзяржавам і былі як бы гаспадынямі ў Лізе Народаў.

Добра быць гаспадыняй ці гаспадаром у самой Лізе, але што за Лігай? А за Лігай ёсьць яшчэ вялікія дзяржавы, каторыя не ўваходзяць у Лігу і для каторых пастановы Лігі ня маюць ніякусенькага значэньня, а гэтымі дзяржавамі будуць: Нямеччына, Амэрыка (Злучаныя Штаты) і Расея, або інакш кажучы СССР.

Дык Англія і Францыя пастанавілі ўцягнуць і гэтыя дзяржавы ў Лігу. Але як на бяду ні Амэрыка, ні Расея ў Лігу ісьці ня хочуць! Асталася Нямеччына. Гэтая згадзілася ўвайсьці ў Лігу, толькі ставіла некатарыя варункі... Дзяржавы таксама ставілі свае „некатарыя" варункі—і гэта ўсё мела разьвязаць сялетняя вяснавая сэсія Лігі Народаў.

Затым і зацікаўленьне Лігай было вялікае. Усе другія „меншыя" дзяржавы думалі пры гэтым, каб вытаргаваць і для сябе нешта. Ахвотніцай да гэтых „таргоў" асабліва была Польшч. Яна пастанавіла дамагацца, каб ей далі сталае мейсца ў Радзе Лігі Народаў. Міністар Скшынскі проста казаў, што Нямеччына ўвайшоўшы ў Раду Лігі Народаў, будзе ў-ва ўсім перашкаджаць Польшчы і затым дамагаўся, каб разам з Нямеччынай пусьцілі ў Раду Лігі і Польшч.

Можа-б Францыя проці гэтага нічога ня мела-б, можа-б і Англія згадзілася на такую перастройку Лігі, але не згадзіліся другія „меншыя" дзяржавы, як Гішпанія і Бразылія. Тыя хацелі таго самага, што і Польшч: каб іх пусьцілі ў Раду Лігі! І гэтае сваё дамаганьне паставілі так рашуча, што ня было іншага выхаду—або трэба было і іх пусьціць у Раду, або ня пускаць нікога...

Але якжа-ж з Нямеччынай? То-ж і ўся сэсія Лігі сабралася, каб прыняць яе ў Лігу, а тут нічога ня выходзіць! Які-ж выхад з гэтага палажэньня?

Выхад дала Бразылія: яна заявіла, што не згаджаецца, каб Немцы былі прыняты ў Лігу Народаў! Чаму так паступіла Бразылія—згадаць трудна і аб гэтым мусіць даведаемся ня скора. Ці сама ад сябе Бразылія зрабіла такую заяву, ці навучана кім іншым—астаецца пакуль-што сакрэтам. Нам здаецца, што вялікія дзяржавы, каб моцна хацелі ўвясьці Нямеччыну ў Лігу, то зрабілі-б гэта без вялікага труду, бо ім-жа лёгка „намовіць" Бразылію, каб яна паступілася... Таксама лёгка было-б „намовіць" і Польшч. Значыць, тут другая прычына: яшчэ ня ўсё было гатова, каб сесьці за стол з Нямеччынай і пачаць з ёю гульню ў спакойную палітыку. Ня ўсё было гатова і ясна са стараны вялікіх дзяржаў і таксама ня ўсё было гатова са стараны Нямеччыны, або іншымі славамі — *карты да гульні яшчэ ня былі гатовы.*

А калі карты не гатовы, дык у дыплъяматычную ігру займацца ня можна, затым і адлажылі справу прыняцьця Нямеччыны ў Лігу Народаў да восені. Можа за гэты час нешта выявіцца.

А тымчасам ніхто не хацеў зьвязваць сваіх рук у тасаваньні карт для прышлай ігры, затым гэтая сэсія Лігі Народаў не дала ніякіх рэзультатаў.

Ці дасьць іх прышлая—вялікае пытаньне. Бо надта-ж ужо многа натварылася розных супярэчнасьцяў у Эўропе, а разьвязаць гэтыя супярэчнасьці цяперашні склад Лігі аніяк ня зможа: бо ў гэту Лігу ўваходзяць толькі пануючыя народы, а народы недзяржаўныя там мейсца ня маюць. Апроч гэтага там асталося і дагэтуль права сільнага, а права сільнага заўсёды выклікае крыўду слабейшага...

Затым і мы, беларусы, да цяперашняй Лігі можам датасаваць сказ: лекару, вылячы самога сябе, а тады будзеш лячыць іншых...

Тады і ня прыдзецца так доўга гатовіць карт для прышлай ігры.

**Горскі.**

## Ці павінны сяляне арганізавацца у саюз?

Дзеля палепшаньня свайго жыцьця, дзеля аховы правоў чалавека і грамадзяніна, рабочыя масы арганізуюцца ў саюзы. Там-бо, дзе не пад сілу аднаму чалавеку, — лёгка зробіць грамада. Мы бачым, што ў-ва ўсіх сучасных гаспадарствах рабочыя масы арганізаваны ў прафэсыянальныя саюзы. Так ёсьць саюз мэталістаў, ткачоў, шахцёраў, каменшчыкаў, вучыцельскі саюз, саюз чыгуншчыкаў і г. д.

Калі рабочыя арганізаваліся ў саюзы, — яны здабылі і васьмі гадзінны рабочы дзень, і большую плату, і касу хворых, і недапушчэньне да працы малалетніх і г. д.

Нашы чыста сялянскія інтарэсы рожняцца ад інтарэсаў усіх другіх працоўных. У нас іншыя абставіны працы, іншая заработная плата і — што найважней за ўсё — кожны нас гне і топча. Такім чынам нам трэба, дзеля палепшаньня свайго жыцьця, гэтак сама арганізавацца ў Сялянскі Саюз, бо па аднаму нас усякі б'е і ўсе выяжджаюць на нашых плячох...

Аднак выходзіць, што ня ўсе нас рады бачыць арганізаванымі ў свой Сялянскі Саюз! Як толькі выйшаў першы нумар органа Сялянскага Саюзу „Сялянская Ніва", дык адразу ў „Беларускай Ніве" падняўся гвалт: „Здрада рабочай клясы! Селянін і рабочы павінны ісьці разам", што мы „льём ваду на буржуазны млын" і г. д. А як тонка падтасовываюцца факты і падказваюцца вывады! Калі „Białaruskaja Krynica" піша, што ў Саветаў няма свабоды веры, то чаму-ж „Беларуская Ніва" робіць вывад ад імя „Białaruskaj Krynicy", што ў Польшчы ёсьць свабода веры?

Гневаецца таксама на нас „Беларуская Ніва" за тое, што жыдоўскую калянізацыю ў Савецкай Беларусі мы прыраўнялі да польскага асадніцтва. Вядома ўсім, што ў нас вясковых людзей ня пытаюцца, ці можна пасадзіць на нашай зямельцы паляка-асадніка. А „там" ці-ж пытаюцца, ці можна на нашай зямлі пасадзіць жыда на хутар?

Мясцоваму работніку сяляне ні ў чым не перашкаджалі і не перашкаджаюць. Наадварот: калі фабрыкі пазачыняліся, то мы цяпер даём беззработным па 10 мільёнаў злотых штомесячна (праз бюджэт), ды яшчэ на гэта самае з нас просяць у царкве, у касьцеле, гміне, на пастарунку і мы ніколі не адмовімся даць хлеба мясцоваму рабочаму, ці ён будзе спакойна працаваць па 8 гадзін, ці ён будзе бунтавацца проціў сваіх фабрыкантаў, ды заводчыкаў. Мы ўсё роўна будзем працаваць па 16—20 гадзін у дзень, есьці бульбу і мякінны хлеб, а яйкі, сьмятану, куры будзем адвозіць да места, каб выручаныя грошы аддаць на падаткі і дапамогі.

Сялянскі Саюз нам патрэбны, напрыклад, і дзеля гэтага: солтысы паразносяць платнічыя наказы. Сяляне навязуць пропасьць хлеба ў места і купцы даюць за яго колькі схочуць. А каб у Сялянскім Саюзе быў, як у-ва ўсіх рабочых саюзах, свой запасны капітал, то селянін атрымаў-бы ад свайго Саюзу дапамогу, каб перачакаць бяду. Такі Саюз меў-бы ўплыў і на ўстанаўленьне цэн на прадукты сельска-гаспадарчай вытварчасьці.

Паўтараем: мы ні ў чым ня будзем перашкаджаць мясцоваму пралетарыяту, але мы так-жа маемо поўнае права і павінны дзеля абароны сваіх чыста сялянскіх інтарэсаў арганізаваць свой Сялянскі Саюз.

**Мірскі Лабоцкі.**

## Сялянскі Саюз.

Сялянскі Саюз, гэта — сіла,
Якую ня зломіць бяда;
Ня змые ў бяздоннасьць нахілу,
Цякучая буйна вада.

Сялянскі Саюз, гэта — воля,
Выразная воля тых мас,
Якіх забівае нядоля
І ў зьдзеку марнеюць ўвесь час.

Сялянскі Саюз, гэта — зданьне,
Што зьяе як зорка ў начы
І кожную іскру жаданьня
Пяройме да мэты йдучы.

**С. Ш—н.**

# З арганізацыйнага жыцьця Беларуск. Сялянскага Саюзу.

### Канфэрэнцыя Саюзу.

24 сакавіка ў памешканьні Беларускага Сялянскага Саюзу адбылася канфэрэнцыя гэтага Саюзу, на якую прыбылі прадстаўнікі блізу з усіх паветаў нашага краю.

Галоўным з праектаў працы канфэрэнцыі было прыняцьце праграмы Саюзу і арганізацыйнага статуту. Працу гэту прадстаўнікі сялян споўнілі дружна і энэргічна.

### Прывітаньні канфэрэнцыі.

Канфэрэнцыя атрымала прывітальную тэлеграму ад Украінскага Сялянскага Саюзу. Зьмест гэтага прывітаньня такі:

„Витаемо конфэрэнцію Білорускего Селсоюзу шлемо горячый прывіт братам білорусам.—Чучмай".

У адказ на прывітаньне украінцаў канфэрэнцыя выслала Украінскаму Сялянскаму Саюзу гэткую тэлеграму:

„Першая канфэрэнцыя Беларускага Сялянскага Саюзу ў Вільні шле шчырае прывітаньне братом украінскага працоўнага народу згуртаванага пад сьцягам Украінскага Сялянскага Саюзу".

Прывітаў так-жа канфэрэнцыю пасол кс. Адам Станкевіч ад імя Беларускай Каталіцкай Злучнасьці, жадаючы памыснага разьвіцьця Саюзу і выражаючы надзею, што Беларуская Каталіцкая Злучнасьць і Беларускі Сялянскі Саюз будуць жыць дружна, як беларускія братнія сялянскія арганізацыі.

### Выбары Цэнтральнага Камітэту.

На канфэрэнцыі ў склад Цэнтральнага Камітэту Беларускага Сялянскага Саюзу выбраны:

Старшыня пас. Рагуля Васіль, віцэ-старшыня пас. Ярэміч Ф., другі віцэ-старшыня Куніцкі І., сэкрэтары: Більдзюкевіч А. і Туронак Б., сябры: Мурашка і Шыбут.

### Рэзалюцыі, прынятыя канфэрэнцыяй.

1. Канфэрэнцыя Б. С. Саюзу дамагаецца спыненьня масавых арыштаў і зьдзекаў адміністрацыі.

2. Канфэрэнцыя Бел. Сял. Саюзу дамагаецца неадкладнай амнэстыі для ўсіх палітычных вязьняў.

3. Канфэрэнцыя Б. С. Саюзу дамагаецца неадкладна асьветы ў роднай беларускай мове.

4. Канфэрэнцыя Б. С. Саюзу пратэстуе проціў новай калёнізацыі беларускіх зямель і дамагаецца, каб на землях беларускіх земля пераходзіла ў рукі сялян беларусаў.

5. Канфэрэнцыя Б. С. Саюзу дамагаецца радыкальнага зьмяншэньня падаткаў дзяржаўных і самаўрадавых, бо сучасны цяжар падаткаў даводзе да поўнага аруйнаваньня сельскіх гаспадарак.

6. Канфэрэнцыя Б. С. Саюзу дамагаецца неадкладнага роспуску Сойму і новых выбараў.

7. Мы прадстаўн. Сялян, прыехаўшыя на канфэрэнцыю Беларускага Сялянскага Саюзу, шчыра вітаем закладчыкаў і арганізатараў Сялянскага Саюзу за іх змаганьне і працу на карысьць беларускага сялянства.

8. Бяручы пад увагу ідэалёгію сялян і цяжкае палітычнае, сацыяльнае і культурнае становішча беларускага народу, Беларускі Сялянскі Саюз павінен імкнуцца да аб'яднаньня ўсіх беларускіх працоўных сіл, стоячых на грунце незалежнасьці злучаных зямель Беларускага Народу.

### Праграма прынятая канфэрэнцыяй.

#### I. Самастанаўленьне народаў.

§ 1. Стоячы на грунце самаазначэньня (самастанаўленьня) народаў, Беларускі Сялянскі Саюз лічыць сваім ідэалам незалежнасьць злучаных зямель Беларускага Народу і добрасуседзкія адносіны з іншымі сумежнымі народамі, імкнучыся да фэдэрацыі з імі.

#### II. Дарога да мэтаў.

§ 2. Да сваіх мэтаў Беларускі Сялянскі Саюз ідзець дарогай арганізаваньня, усьведамляньня і ўзгадовываньня беларускіх сялян, парабкоў і беларускай сялянскай інтэлігенцыі на грунце сялянскіх клясавых інтарэсаў і на грунце беларускай народнай культуры.

#### III. Зямля сялянству бяз выкупу.

§ 3. Усе нятрудавыя землі: абшарнікаў, дзяржаўныя, касьцельныя, царкоўныя і іншыя, павінны перайсьці ў рукі беларускіх — малазямельных і беззямельных сялян, бяз розьніцы веры, бяз выкупу і на ўласнасьць, бяз права спэкуляцыі зямлёй, у ліку працоўнай нормы, у залежнасьці ад якасьці зямлі.

§ 4. Падзел зямлі праводзіцца самымі сялянамі праз Сялянскія Зямельныя Камісіі пры Самаўрадах.

§ 5. Сялянскія Зямельныя Камісіі пры Самаўрадах могуць звольніць ад парцэляцыі тыя землі, якія патрэбны для прамысловых, культурных, рэлігійных, або навуковых мэтаў.

§ 6. Пры падзеле зямлі Сялянскія Зямельныя Камісіі ўстанаўляюць працоўную норму.

§ 7. Працоўная норма зьяўляецца тыпам самастойнай хутарнай гаспадаркі.

#### IV. Лясы, воды і іншыя прыродныя багацьця.

§ 8. Лясы, воды, падземныя багацьця і іншыя становяць уласнасьць усяго беларуск. народу.

§ 9. На патрэбы будаўляныя і на апал Сялянскія Зямельныя Камісіі пры Самаўрадах вызначаюць пэўны лік лесу, з якога сяляне маюць дровы і будаўляныя матар'ялы.

#### V. Пераход на хутары.

§ 10. Пераход на хутары праводзяць Сялянскія Зямельныя Камісіі са згоды сялян асобных вёсак, або грамадаў.

§ 11. Пры пераходзе на хутары, Беларускі Сялянскі Саюз дамагаецца, каб сяляне атрымалі дапамогу ў форме будаўляных матар'ялаў і грошаў.

§ 12. Усе работы, зьвязаныя з пераходам на хутары і парцэляцыяй, адбываюцца для сялян бясплатна.

#### VI. Скасаваньне асадніцтва.

§ 13. Стоячы на тым грунце, што ўся зямля павінна перайсьці ў рукі малаземельнага і беззямельнага беларускага сялянства, Беларускі Сялянскі Саюз дамагаецца скасаваньня якнайхутчэй вайсковага асадніцтва і прыватнай калянізацыі беларускіх зямель.

#### VII. Земляробская палітыка.

§ 14. Беларускі Сялянскі Саюз імкнецца так-жа да палепшаньня гаспадарчага палажэньня вёскі праз узрост земляробскай культуры, павялічэньне абшару ўпраўнай зямлі і мэльёрацыі.

§ 15. Сяляне павінны карыстаць з таннага крэдыту на загаспадараваньне, на закуплю інвэнтара, культурных насеньняў збожа і траваў, штучных навозаў і іншых.

§ 16. Беларускі Сялянскі Саюз вядзе барацьбу з сучасным выкарыстваньнем вёскі горадам і з нясумернасьцю цэнаў між зямельнымі прадуктамі і фабрычнымі таварамі.

§ 17. Збыт зямельных прадуктаў і зякупля гаспадарчых прыладаў, насеньня, штучных навозаў, земляробскіх машын і іншых, павінны адбывацца праз свае сельска-гаспадарчыя каапэратывы.

(Далей будзе).

# Сьвяткаваньне 8-х угодкау абвешчаньня незалежн. Беларусі.

Штогоднім звычаем беларусы сьвяткавалі 25 сакавіка 8-я ўгодкі незалежнасьці Беларусі. Сьвяткаваньне началося з урачыстага набажэнства ў касьцеле сьв. Мікалая, куды зышлося шмат беларускага грамадзянства бяз розьніцы веры і палітычных кірункаў. Імшу адправіў кс. Цікота, а прамову датасаваную да дня сьвяткаваньня, у гарачых і прыгожых славах, поўных глыбокага патрыатызму, сказаў кс. пасол А. Станкевіч.

Хор, зложаны з вучняў-каталікоў Віл. Бел. Гімназіі, бойка адсьпяваў імшу і пару беларускіх рэлігійных песьняў.

Незабавам пасьля набажэнства каталіцкага, адбылося так-жа набажэнства праваслаўнае ў Пятніцкай царкве. Невялікая царква ледзь магла зьмясьціць у сваіх сьценах прысутных беларусаў, каторыя з радасьцяй прыслухіваліся да беларускага слова, бо навука ў царкве на беларускай мове, на жаль, покуль-што, зьявішча даволі рэдкае. Прамову сказаў сьвяшч. Коўш.

А гадз. 12 дня ў Беларускім Нацыянальным Камітэце адбылося паседжаньне Камітэту, дзе на парадку дня быў абход угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі і справа аднаўленьня мандатаў сяброў Камітэту.

Вечарам у залі Бел. Гімназіі быў зладжаны канцэрт на карысьць незаможных вучняў Гімназіі. Праграма звычайнага канцэрту ня выказывала лучнасьці з сьвяткаваньнем, аднак прысутнасьць прадстаўнікоў літоўскага і польскага народу, прыдавала вечару ўсё-ж такі палітычны характар. Паміж нябывалымі гасьцьмі гэтага вечару, выдзялялася асабліва асоба п. Рэктара Віленскага Унівэрсытэту праф. Зьдзехоўскага і праф. Цэзарыі Эрэнкройц.

Трэба жалець, што праграма канцэрту ня была абдумана і напісана. Дзеля гэтага можа І-я часьць канцэрту была шмат карацейшая ад ІІ-й часьці. Хор пад загадам п. Шнаркевіча пяяў даволі згодна; толькі шкада, што ледзь не ў ва ўсіх песьнях вычуваўся запавольны тэмп. А гэта вельмі псавала агульнае ўражаньне.

З салістаў найбольшы пасьпех меў вядомы артыст п. Бэноні; на жаль, да беларусаў ён паказвае нязвычайную свайго роду скупасьць.

Панна Душэўская прапяяла 2 народныя песьні з характэрным, як на прафэсыяналку-сьпявачку, захаваньнем вясковай прыкрасы ў матывах, якую часам трудна дакладна і выразіць нотамі. Паміж іншымі рамансамі прапяянымі п. Душэўскай на ўвагу заслугуе „Зязюля", кампазыцыі беларускага сэнатара Багдановіча, катораму пасьля невялікай карэкты радзім выдаць друкам.

# З нядаўнага мінулага Пружаншчыны.

(Працяг).

Дзяцей сягоньня распусьцілі раней як звычайна. Школьны будынак асвабадзілі такім чынам пад сялянскі сход, які быў склікаsucceeded па загаду інспэктара. Як аказалася пазьней, гэты сход быў як „проці-сход" таго папярэдняга сходу, на якім зроблены прыгавар аб адкрыцьці беларускай школы.

Відаць, што п. інспэктар ня дурны! Ён абсалютна нічога не сказаў аб тым, з якою мэтаю прыехаў, пакуль не распазнаў „якая" пануець атмасфэра сярод сялянаў. А між іншым гэты панок меў пры сабе паперы, якія прыйшлі з Міністэрства аб „збаданьні" сапраўднасьці дамаганьня гаспадароў на беларускую школу. Усё гэта сталася так неспадзявана, што сяляне не змаглі наперад прыгатовіцца да контр-атакі. А раз наш селянін наперад не прыгатовіўся, дык пабачыўшы панка ды яшчэ з „залатым" пасачкам на шапцы, напэўна можа адрачыся таго, што раней пастанавіў. Перш чым перайсьці да зьдзейсьненьня сваіх намераў, п. інспэктар пусьціў у ход сваю агітатарскую здольнасьць, каб праканацца, як „цьвёрда" яны стаяць на сваей пазыцыі. Адным словам, ужыў ваенна-стратэгічнага спосабу, хоць здаецца п. інспэтар вайсковым і ня быў. Што ён не гаварыў сялянам!

— Што беларускай мовы, як гэткай, няма саўсім(!) Гэта хутчэй будзе мова польская... але трошкі „сапсутая" дзякуючы маскоўскаму выхаваньню. На беларускай мове гутараць толькі цёмныя, нецывілізаваныя нізы вёсак. На гэтай мове няма ніякіх падручнікаў(!!), якімі маглі-б карыстацца ў школе вашыя дзеці. Гэта ўсё вядзе да таго, кажа ён далей, што вашыя дзеці, скончыўшы беларускую школу, застануцца цёмнымі, як і былі раней.

Ня буду падробна апісваць таго спосабу „агітацыі", якога ўжыў гэты культурны прадстаўнік польскае цывілізаванае нацыі. Аб гэтым свайго часу пісалася ў беларускіх газэтах. Скажу толькі, што агітацыя была да таго агідная, да таго недастойная праз увагу на тое становішча, якое займаў гэты „агітатар", да таго нячэсная—што ня ведаю, як назваць гэты паступак. Карыстаючыся з тае цемнаты сялян і нязнаньня гісторыі—гэты панок мяшаў проста „гарох з капустаю".

Кончылася тым, што быў зноў напісаны прыгавар, які галасіў, што школа застаецца на далей польская і, што будзе навучаньне беларускай мовы. Гэтым самым папярэдні прыгавар, траціў сваю сілу. У пэрспэктыве — зноў ня родная школа. Сяляне, баючыся прасьледаваньняў з боку адміністрацыі, здрадзілі сваю справу. Здрадзілі і, такім чынам, асталіся „чыстымі".

А хто-ж астаўся „нячыстым?" Вядома той, хто найболей памагаў у іх справах. Пасьля ўсяго гэтага пачала сваю дзейнасьць паліцыя.

Пайшлі спросы-дапросы: хто, ак і дзе. Раздулі вялізарнае палітычнае дзела. Вучыцеля абвінавачвалі ў агітацыі, як сярод сялянаў, так і ў школе сярод дзяцей. Сярод вучняў, маўляў, разьвіваў ненавісьць да ўсяго польскага. Вучыцелю нічога не аставалася рабіць, як толькі заўчасу пакінуць Бацькаўшчыну і ўцякаць за граніцу. Здавалася б, што з выездам вучыцеля выедзець і тая „зараза", якая зьявілася на тэрыторыі Пружаншчыны. Але сталася наадварот. Беларуская ідэя, прынесеная сюды, усё глыбей і шырэй пачала ўкараняцца ў шырокія масы беларускае вёскі. Не па днях, а па гадзінах расьце беларуская сьвядомасьць сярод сялянаў. Як бытцам нейкая невядомая сіла ўзварушвала беларускую вёску. Пасьля Ліхачоў адгукнулася вёска Жадзены, Бакуны, Крушэ і іншыя. У Жадзенах, між іншым, шмат памагла сваім уплывам вуч. Н. Каляда, якая за гэта страціла сваю пасаду. Ня гледзячы на тыя рожныя перашкоды, запуджаньня сялянаў, масавыя арышты—лік дэклярацыяў на беларускія школы расьце. І цяпер Пружанскі павет што да дэклярацыяў, займаець, здаецца, 2-е мейсца ў Заходняе Беларусі. Гэта нешта ёсьць! Гэта ёсьць вялікае дасягненьне. Аднак усё-такі мы не павінны і цяпер злажыўшы рукі сядзець. Ня гледзячы на тыя дасягненьня, мы павінны будзем яшчэ з большай энэргіяй завіхуцца каля працы.

Шмат ёсьць у нас, пружанцаў, балючых пытаньняў, якія мы мусімо хоць на палавіну ажыцьцёвіць. Першым і адным з найважнейшых пытаньняў, ёсьць пытаньне пра беларускі тэатр. Нацыянальны тэатр, як вядома, адыграець вялізарную ў адраджэнскім руху ролю. І цяпер перад намі, пружанцамі, стаіць заданьне абавязкова зарганізаваць гэткі тэатр. Наш павет у гэтым страшна адстаў! Да гэтага часу (памінаючы спробу некатарых людзей, аб якіх мова будзе ніжэй) ніхто не паруліўся аб тым, каб наш селянін пабачыў свой родны тэатр. Цяпер на гэта мусіма зьвярнуць вялікую ўвагу!

Гр. Шыманко, былы сэкрэтар Сэкрэтар'яту Беларускага Пасольскага Клюбу ў Пружане рабіў усе заходы, каб зарганізаваць беларускі тэатр. Былі ўжо нават падрыхтаваны для гэтага адпаведныя сілы. На першы пачатак думалі згуляць: „Зьбянтэжанага Саўку"

Пані Кмецінская паміж іншымі песьнямі пазнаёміла беларускую публіку з іншым беларускім рамансам, выданым у Менску, пад назовам „Сасонка" (муз. Аладава, сл. Купалы). На заканчэньне канцэрту гімназыяльны аркестр адыграў марсельезу „Ад веку мы спалі".

Абход угодкаў абвешчаньня незалежнасьці кончыўся гарбаткай, дзе быў прысутны прадстаўнік літоўцаў д-р Альсэйка і ад палякаў адвакат Ст. Міцкевіч.

# З Радавай Беларусі.

### Новая чыгунка.

Нядаўна закончана будова новага чыгуначнага шляху паміж Лепалем і Оршай. Новая лінія праходзіць праз найбольш закінутыя куткі Радавай Беларусі.

Дня 22 сакавіка на гэтым новым шляху пачаўся рух пасажырскіх і таварных цягнікоў.

### Вялікі беларускі слоўнік.

Інстытут Беларускай Культуры ў Менску стварыў спэцыяльную сталую камісію да ўкладаньня новага слоўніка беларускай мовы. Камісія гэта сабрала ўжо **больш 40.000 слоў**, выбраных з літэратурных твораў XIX і XX сталецьця. Найвялікшую ўвагу зьвертае камісія на сучасную мову беларускага народу.

# З Польшчы.

### Захацелася караля!

Некатарым палякам, асабліва польскім паном ад нейкага часу моцна захацелася караля. Бо і як-жа жыць без караля? Няма даўнейшай шляхоцкай рызыкі, няма каму і двароў бараніць — дык давай караля! Можа лепш будзе...

Гэтак крычыць абшарніцкае віленскае „Słowo", гэтак крычаць манархісты па ўсіх кутках Польшчы, а цяпер дык і пазнанскія абшарнікі, якія ў Сойме маюць аж цэлы свой клюб пад назовам „Chrześćjańsko-Narodowy" высказаліся за караля ў Польшчы... Усе гэтыя пазнанскія абшарнікі любяць называць сябе „rolnicy", але гэтыя „rolnicy" маюць па некулькі дзесяткаў тысяч дзесяцін зямлі. Дык мусіць, каб бараніць зямлю, хочуць у Польшчы паставіць караля. Нават ужо шукаюць кандыдата на каралеўскі трон у Польшчы. Толькі невядома каго выбяруць, бо кожны пан хацеў-бы быць каралём... Каб часам не пасварыліся...

А нам беларусам паводле тэй прыказкі: ці пень аб саву, ці саву аб пень—усё саве бяда.

### Падгатоўка да гандлёвых зносін з Рад. Расеяй.

У міністэрстве гандлю і промыслу адбываюцца ўступныя канфэрэнцыі ў справе гандлю з С. С. С. Р. У купцоў у Польшчы канфэрэнцыі гэтыя будзяць вялікае зацікаўленьне.

### Эндэкі ня сьпяць.

Пасольскі Клюб эндэкаў падаў у Сойм прапазыцыю аб перамене выбарнага закону да будучых выбараў у Сойм. Дамагаюцца, паміж іншым, такіх перамен: Паменшэньня ліку паслоў да 224, а сэнатараў да 56, кожнае ваяводзтва становіць асобны выбарны округ за выняткам ваяв. валынскага, палескага і навагрудзкага. Зразумелая рэч, што гэта ўсё робіцца дзеля таго, каб якнайменш у Сойм папала прадстаўнікоў беларускага, літоўскага і ўкраінскага народу.

# З Заграніцы.

### Свой цукер у Латвіі.

Як паказваюць газэты, у Страмбове пад Мітаваю пачалі ставіці латвійскую цукроўню на перапрабленьне 50 тысячаў тонаў буракоў.

Ужо летась латыскае таварыства цукровага промыслу зрабіла рад спробаў, каторыя далі добрыя рэзультаты. Гэтае-ж таварыства маніцца закласьці фабрыку цукру ў Бэгнэн, калі будзе даволі цукровых буракоў. Латышы ў борздым часе маняцца гэтак разьвіць цукровы промысл, каб Латвіі хапала свайго цукру. З гэтага бачым, што і Беларусь можа развясьці ў сябе цукровы промысл і абысьціся тады бяз прывозу цукру з чужыні. На гэта ўжо пара зьвярнуці ўвагу.

### Прамовы ў парлямантах на мовах нацыянальных меншасьцяў.

Нядаўна газэты пісалі, што ў францускім парляманце прамаўляў пасол з Эльзасу панямецку. Часьць паслоў не хацела гэтага дазволіць, але старшыня Сойму Эріо дазволіў паслу мець мову панямецку. Эріо пратэстуючых усьцішаў, кажучы, што ў францускім парляманце францускія грамадзяне з Эльзасу маюць права прамаўляць у сваёй роднай мове; пры гэтым Эріо паклікаўся яшчэ на тое, што прамовы панямецку ў францускім Сойме бывалі ўжо і раней.

15 сакавіка сёл. г. у Сойме чэхаславацкае рэспублікі прамаўляў паўкраінску пасол Валошын з Прыкарпацьця. Тутака нятолькі ня было жаднага пратэсту, але мова ўкраінскага пасла была спаткана вялікімі воплескамі.

Як бачым, ня ўсюды так, як у Польшчы.

### Французы пакідаюць нямецкія землі.

У выніку далейшага ўзмацненьня Нямеччыны, саюзьнікі ўсё больш змушаюцца зьнімаць з яе сваю ваенную апеку. У хуткім часе францускае войска будзе выведзена з раёну Сары, у апошнім будуць пакінуты толькі 1000 чал. жандармэрыі, над якімі будзе мець вышэйшую ўладу назначаны Лігай Народаў камісар—грамадзянін Канады п. Стэфанс.

### Даўгі Францыі Амэрыцэ.

Перагаворы Францыі з Амэрыкай у справе ўрэгуляваньня францускіх даўгоў маюць быць бытцам хутка закончаны. Агульны доўг Францыі Амэрыцэ аблічаны ў суме 6 мільярдаў 200 мільёнаў даляраў.

### Разбудова савецкай флёты.

У Маскве пачаліся перагаворы ў справе будовы ваенных параходаў для савецкай флёты ў італьянскіх доках. Незабавам савецкая дэлегацыя выедзе ў Італію дзеля бліжэйшага паразуменьня.

### Балтыцкія праекты Радавай Расеі.

У Маскве адбылося паседжаньне Калегіі Камісарыяту да спраў заграхічных, на якім абгаварываліся справы будучых адносін да рэспублік балтыцкіх, а так-жа да Румыніі і Польшчы.

Паводле слоў радавага пасла ў Рызе, заданьнем радавай палітыкі ёсьць не дапусьціць да стварэньня саюзу балтыцкага з Польшчай, а так-жа ізаляваць балтыцкія рэспублікі ад польскіх уплываў.

### Няўдалая спроба японскіх мілітарыстаў.

Як пішуць парыскія газэты, у Токіо, падчас спробаў кіданьня бомбаў з самалётаў, зваліўся вялізарны японскі самалёт, нясучы сьмерць на мейсцы 3-ом афіцэрам.

# ХРОНІКА.

— **Водгукі сьвяткаваньня абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.** У віленскай літоўскай газэце „Vilniaus Aidas" 25.III.1926. спатыкаем даволі вялікую стацьцю пасьвячаную нашаму нацыянальнаму сьвяту.

Аўтар стараецца найсьці прычыну, дзеля каторай Беларусь не магла так як Літва атрымаць сваю незалежнасьць. У канцы прыходзіць да вынаву, што галоўнымі перашкодамі незалежнага істнаваньня Беларусі зьяўляюцца няспрыяючыя тэрыторыяльныя варункі, захопныя імкненьні суседзяў і недахват нацыянальнай сьведамасьці шырокіх сялянскіх масаў. Аднак падлічаючы вынікі 8-мі гадовага нацыянальнага змаганьня, аўтар заяўляе, што як на грунце палітычным, так і культуральным беларускі народ здабыў шмат.

З іншых віленскіх газэт толькі „Kurjer Wileński" зьмяшчае заметку аб сьвяткаваньні ў беларусаў.

— **Беларускія аднадзёўкі.** Замест газэты „Беларуская Ніва" выйшлі новыя чародныя аднадзёўкі: „За праўду" і „На Прадвесьні".

— **Пратэст.** З прычыны таго, што польскія школьныя ўлады ад 28.II. да 8.III. с. г. зачынілі аж 36 літоўскіх школаў у Сьвянцяншчыне, Сьвянцянскі аддзел культ.-прасьветнага таварыства „Rytas" выдаў востры пратэст проці нішчэньня літоўскае пачаткавае школы.

— **Перавыбары ў Літоўскім Тымчасовым Камітэце.** 21 сакавіка г. г. адбыліся перавыбары ў Віленскім Літоўскім Тымчасовым Камітэце. На старшыню выбраны д-р Д. Альсэйка, на віцэ-старшыню кс. К. Чыбірас і В. Заянчкоўскі, на сэкрэтара К. Вэлецкі.

— **Дэманстрацыя безработных.** Дня 24 сакавіка частка віленскіх безработных у ліку каля 300 душ падышла пад Магістрат дамагаючыся дапамог і бязплатных абедаў. Паліцыя з камісарам на чале разагнала безработных і аднаго з іх арыштавала.

— **Хлопцам перад войскам жаніцца ня можна.** Міністэрства спраў вайсковых яшчэ ўперад было выдаўшы загад, каб духоўнікі не давалі шлюбаў маладым хлопцам, каторым трэба будзе ісьці да войска. Міністэрства ня хоча, каб у войску былі жанатыя людзі, бо гэта бытцам будзе перашкодай у іхнай вайсковай службе — і калі такога хлопца возьмуць у войска, то астануцца без апекі жонка і дзеці. На шлюб такога „пабаровага" трэба пазваленьне ўлады.

Дык цяпер міністэрства ўнутраных спраў выдала старастам загад, у якіх выпадках можна пазволіць браць шлюб „пабаровым". А на гэта трэба такіх меней болей прычын: адзіноцтва хлопца, калі ён ужо быў жанаты і пакінуў сірот; калі яго маладуха ўжо перад шлюбам спадзяецца радзін, або нават ужо мела дзіця; калі яна асталася без ніякай апекі і г. д.

Такія просьбы трэба падаваць да паветавага старасты. У просьбе тэй павінны быць:

1) мэтрыкі маладога і маладухі,

2) пазваленьне бацькоў, або, калі іх няма, апякуноў на жанімства,

3) пасьведчаньне ад добрых абычаях маладых,

4) усе прычыны, якія прымушаюць жаніцца перад вайсковай службай.

— **Афіцыяльны курс грошаў** на 29.III. Даляр—8 зл. 00 гр. Залаты рубель—4 зл. 10 гр.

*Сяляне! Чытайце і пашырайце сваю газэту „Сялянскую Ніву"!*

---

Родзевіча і „Паўлінку" Я. Купалы. Мейсцы прадстаўленьня былі выбраны Пружаны і Шэрашэва. Пасьля з часам думалася таксама згуляць дзе небудзь на вёсцы. Але на жаль добрым думкам гр. Шыманкі не судзілася зьдзейсьніцца. Яго хутка пастараліся „сильныя міра сего" „ліквідаваць". (Аб гэтай „ліквідацыі" напішу яшчэ ніжэй). Другая спроба зарганізаваць беларускі тэатр была зроблена праз гр. М. Ільяшэвіча, але таксама чамусьці з гэтага нічога ня вышла. Цяпер будзем надзеяцца, што калі нехта возьмецца за гэтае дзела, дык скране з таго тупіка, у які заехалі Пружанцы з беларускім тэатрам!

Гаворачы аб беларускім руху ў Пружаншчыне, ня можна не ўпамянуць некатарых асоб, якія цесна зьвязаны з рухам. У першую чаргу зьвяртае на сябе ўвагу гр. Стаўбунік. Ня гледзячы на тое цяжкое палажэньне, якое мусіць пераносіць дзякуючы двом малым дзеткам, якія ўгрымліваець на свае ўласныя сілы, яна заўсёды знаходзіла шмат часу на грамадзкія справы. Пакінуўшы дзетак дома, яна за некалькі вёрст хадзіла на вёскі і такім чынам зьбірала прыгаворы на беларускія школы. Гэта сапраўды тып упартай кабеты-барацьбіткі, змагаючайся за лепшую долю Беларускага Народу.

Пружанскі павет такою жанчынаю можа толькі гардзіцца. Тых шэсьць месяцаў турэмнай няволі і зьдзеку, перанесенага за кратамі Гарадзенскай турмы, могуць быць нам як сьвядоцтва аб яе працы на карысьць працоўных. Другою асобаю ёсьць гр. Я. Лапука, жыхар вёскі Буканы. Ён поўнай жменяй сеіць беларускую сьвядомасьць сярод тамашніх сялянаў. Працуйце, добрыя людзі, на карысьць свайго забітага Краю і Народу! Працуйце,—праца вам прынясе ў будучыні ўцеху і радасьць.

Цяпер перайду да „ліквідацыі".

Гр. Шыманко, 1897 рочнік ехаў на 2-х тыднёвае „цьвічэньне" ў Берасьць. Пры сабе меў усе дакумэнты ад эвідэнцыйнага ахвіцэра: дакумэнт падружжы, пасьведчаньні, вайсковы білет і іншыя. Пружанскія „бажкі" відаць не маглі пагадзіцца з тым, што Шыманко за два тыдні вернецца назад. Гэтага ім не хацелася, таму пастараліся зрабіць так, як была выгадней ім самым. У той дзень, калі Шыманко меўся адехаць на „цьвічэньне", шпіцлі стаялі на стражы. Як толькі ён зьявіўся ў вагоне вузкакалейкі, якая ідзець з Пружанаў да Лінова, паявіўся камэндант паліцыі з сваею хэўраю і папрасіў Шыманко на пастарунак. Гр. Шыманко пры сабе меў партфэль, у якім поўна было беларускай літэратуры, бяз якое, ён звычайна і кроку не хадзіў. Між гэтаю літэратураю былі газэты, кніжкі, беларускія календары, але ўся літэратура была легальнага паходжаньня. Дзеля таго, што ворагі бачылі ў працы гр. Шыманка камуніст. дзеяльнасьць, дык іх абрадавала гэтая літэратура, думаючы, што гэта ёсьць камуністычныя праклямацыі. Пры дапросе на пастарунку (была 12 гадз. ночы) камэндант біў у твар арыштаванага, вымагаючы ад яго прызнаньня ў проці-дзяржаўнай агітацыі. Нічога не дабіўшыся ад яго і ня маючы фактаў, сьцьверджаных у абвінавачываньні, паны камэнданты (між імі быў таксама камэндант пастарунку в. Дабучына) задумаліся: што і як далей рабіць? Асвабадзіць—было ім не па нутру. Але з гэтага палажэньня яны хутка выкарабкаліся. Тут прыйшоў на дапамогу беларускі вырадак, войт Дабучынскай вол. Рагажанскі, панскі падліза... У адзін дзень быў сфабрыкаваны дадатачны запіс на гр. Шыманку, як пабаровага з 1899 г. Паліцыя з свайго боку пастаралася напісаць „рэкруту" добрую апінію; што тры разы ўцекаў з польскага войска (між іншым Шыманко ў польскім войску ніколі ня быў!), што ён камуніст і г. д. і г. д., адным словам напісалі толькі страшэнных рэчаў аб гр. Шыманцэ, што прачытаўшы ўсё гэта, чалавек падумаў-бы сапраўды, што тут караілася вялікая небясьпека для Панства Польскага. Замест Берасьця, Шыманко папаў на Горны Сьлёнск, куды затарабанілі на 2-х гадовую вайсковую службу. Адным словам, паны сваё зрабілі. Ці па праву было гэта зроблена, ці не — іх гэта не абходзіла. А ты шукай таго права! Пакуль знайдзеш, дык два гады вайсковай службы адбудзеш...

Так. Прайшлі толькі тры гады! Невялікі здаецца час... але зьмены адбыліся вялікія на грунце Пружаншчыны...

Арышты... Прасьледаваньня... Зноў арышты... Гісторыя з асаднікамі... і так без канца. Як у кіно перад тваімі вачыма праходзіць шмат абразоў, так і ў Пружаншчыне зьмяняюцца падзеі за падзеямі. Але ўсё-такі цяпер ужо немагчыма закаваць у кайданы душы беларускага адраджэньня... Немагчыма задушыць жывое беларускае душы!... Усе арышты, прасьледаваньні сьведчаць толькі аб тым, што гэтая душа жыве і будзе жыць!...

(Канец).

**М. Дабучынскі.**

